## БТ ПАШЫРАЕ СФЭРУ УПЛЫВУ

*«З 1-га лютага на 30 адсоткаў скарачаецца тэрыторыя вяшчаньня расейскага тэлеканалу РТР на Беларусь».*

*чытайце на стар.2*

## «КУТЫ» БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ?

*«Афіцыйная статыстыка паказвае, што самы стабільны «кут» – беспрацоўе згубіў устойлівасць».*

*чытайце на стар.3*

## ЗОМБІ

*«Галава яшчэ слаба рэагуе на «знешні фактар»».*

*глядзіце на стар.4*


# ДЗЯНЬНІЦА

Інфармацыйнае выданьне грамадзкага аб'яднаньня "Усяслаў Чарадзей"



№3-4, студзень 2003

Заснаваная ў 1999 годзе
Выходзіць чатыры разы на месяц


# ЧП ДЛЯ И. П.

***Настоящим ударом по малому бизнесу грозит стать четвёртый декрет президента Лукашенко, в соответствии с которым индивидуальные предприниматели, имеющие более 3 наёмных работников, будут вынуждены переквалифицироваться в юридические лица и, соответственно, платить большие налоги.***

В соответствии с декретом № 4, от 29 января 2003 г.— «Гражданин вправе заниматься предпринимательской деятельностью в качестве индивидуального предпринимателя с привлечением для этого не более 3 физических лиц на основе гражданско-правовых и (или) трудовых договоров». Иными словами, начиная с 1 мая 2003 г. Предприниматель, на которого трудятся более трёх наёмных работников, обязан перерегистрироваться в качестве юридического лица. Проще говоря, те торговцы и челноки, умения и сил которых хватило, что бы немного расширить свой бизнес и нанять, к примеру, продавцов для своих торговых точек, расцениваются государством как юридические лица.

Эксперты из Белорусского союза нанимателей и предпринимателей им. Кунявского расценивают четвёртый декрет как сильнейший удар по малому бизнесу. Не успели белорусские предприниматели опомниться от введения кассовых аппаратов и сбора в фонд социальной защиты населения, как родное государство преподнесло им новый подарок.

«Большинство предпринимателей ещё никак не отреагировало на введение нового дополнения» — говорит Нина Георгиевна Лукьянова, директор витебского филиала БСНиП им. Кунявского — «Принятие декрета резко сократит количество индивидуальных предпринимателей».

Ну и что же? Подумаешь, изменилось название, ну лишние хлопоты с перерегистрацией, однако торговать то никто не запрещает— скажет обыватель и пожмёт плечами. Тем более, что по словам самих челноков, не имеющих наёмных работников, их декрет не затронет. Так то оно так, но вот сами «жертвы» декрета думают несколько иначе. По словам крупных бизнесменов, зарегистрированных как И. П., регистрация в качестве юридического лица нанесёт серьёзный ущерб бизнесу. Во-первых, значительно возрастёт налогообложение, во-вторых, лицензии, добытые с большим трудом и на протяжении не одного месяца, придётся перерегистрировать снова. В-третьих, значительно усложнится документация и делопроизводство. Действительно, упрощённая форма делопроизводства, а также низкие налоги являются едва ли не единственным «лучом света» для предпринимателей. Юридические лица (к примеру, малые предприятия), как раз и несут на себе основной груз налогов. По словам Нины Георгиевны Лукьяновой: — «Многие малые предприятия специально становятся И. П. из-за сложностей в делопроизводстве и налогообложении».

В самом деле, суммы выплат по всем видам деятельности порой бывают более чем высокими. Естественно, что сумма совокупных налогов для малых предприятий и хозяйственных обществ значительно превышает налоги, взимаемые с И.П.. Этот факт отражён в налоговом законодательстве.

Это во-первых, а вовторых в сложившейся ситуации государство не замечает (либо делает вид, что не замечает) разницы между предпринимателем с коллективом в 5 — 6 сотрудников и бизнесменом, платящим зарплату 60 — 70 рабочим. И для первого и для второго налоговое бремя будет примерно одинаковым. Только работодателю 60 человек всё же легче будет справляться с налоговыми выплатами. При большом товарообороте доходы, как правило, соответствующие. Эксперты считают, что средний бизнес выживет в таких условиях, а вот подавляющая масса «челноков» с малым доходом налоги для юридических лиц «не потянут». В результате им придётся снизить зарплаты своим сотрудникам, либо уволить их вовсе.

Согласно статистике за 2002 год, общее количество индивидуальных предпринимателей в Витебской области увеличилось на 1813 человек, при 23597 зарегистрированных И. П. Увеличению этого показателя немало способствовал высокий, по сравнению с прошедшими годами, уровень безработицы в Беларуси в 2002 г. Интересно, на сколько снизится привлекательность малого бизнеса из-за введения декрета?

Действия государства в отношении малого бизнеса всегда были непредсказуемыми. В сложившейся ситуации «четвёртый президентский» — это даже не нож в спину, а расстрел на месте. Возникает впечатление, что власть умышленно выстраивает стену между собой и предпринимательством. Причём и введение кассовых аппаратов, и сборы в фонд социальной защиты и, наконец, вышеупомянутый декрет сделали эту стену просто неразрушимой.

Малый бизнес, в силу своей инертности, разрозненности и правовой неграмотности давно стал «дойной коровой» не могущей отстоять свои права, что как нельзя лучше помогает снимать государству всё большие «надои».

*Сяржук Стахоўскі*
*фото С.Балая*









фота: www.racyja.pl

# ЭЎРАПЕЙСКАЕ РАСЬСЬЛЕДАВАНЬНЕ

***У Стразбургу ў рамках сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы адбылося пасяджаньне адмысловай камісіі ў справе зьніклых апазыцыянэраў, у якім бралі ўдзел Вольга Захаранка, Людміла Карпенка, Ірына Красоўская, былы начальнік менскага СІЗА-1 Алег Алкаеў, былы кіраўнік КНГ АБСЭ Ганс-Георг Вік, а таксама намесьнік старшыні АГП Яраслаў Раманчук. Прадстаўнікі афіцыйнай дэлегацыі з Палаты прадстаўнікоў Нацсходу РБ на паседжаньне не зьявіліся.***

Нагадаю, што ачольвае камісію ў справе зьніклых вядомы расейскі праваабаронца Сяргей Кавалёў. Цягам трох месяцаў ён так і не атрымаў адказу ад беларускіх уладаў на запыт, дасланы ў праваахоўныя органы Беларусі. «Адсутнасьць адказу — таксама адказ» — адзначыў спадар Кавалёў у сваім выступе.

Прадстаўнікі афіцыйнай дэлегацыі з Палаты прадстаўнікоў Нацсходу РБ на паседжаньне не зьявіліся. Не прынесла яснасьці й папярэдняя сустрэча Сяргея Кавалёва з дэпутатам Леанідам Глухоўскім. Між іншым, Менская гарадзкая пракуратура прыпыніла расьсьледаваньне справаў зьніклых палітыкаў.

Сябры камісіі намерваюцца зноў зьвярнуцца да беларускіх уладаў і напісаць ліст непасрэдна да прэзыдэнта Лукашэнкі. Камісія будзе працягваць сваё расьсьледаваньне справаў зьніклых і на наступныя паседжаньні яна мяркуе запрасіць сьледчых Случака й Петрушкевіча, якія цяпер жывуць у ЗША, а таксама сьведак Угляніцу й Жарнасека, якія знаходзяцца ў Нарвэгіі.

Мы патэлефанавалі ў Стразбург Ірыне Красоўскай пасьля прэс-канфэрэнцыі, якую ўдзельнікі паседжаньня камісіі правялі ў Стразбургу.

**І. К.:** — Вельмі важна, што гэтая камісія створана, што ёсьць столькі людзей, якія цікавяцца сытуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі й менавіта зьнікненьнем людзей. Само стварэньне камісіі — гэта першы крок да разьвіцьця дэмакратыі ў нашай краіне. Вынікі працы камісіі могуць зьмяніць наагул сытуацыю ў Беларусі.

У той жа дзень Ірына Красоўская й іншыя прадстаўнікі беларускай дэлегацыі правялі сустрэчу з Генэральным сакратаром Рады Эўропы Швімэрам.

***А. Дашчынскі,***
***(Радыё Рацыя)***

# БАЦЬКА ВЫДАЎ НОВЫ ЎКАЗ

Аляксандар Лукашэнка выдаў Указ «Аб правядзеньні рэклямных гульняў у Рэспубліцы Беларусь». Дакумэнт прыняты ў зьвязку з тым, што апошнім часам вытворцы ўсё часьцей прыбягаюць да зарганізаваньня рэклямных гульняў і акцыяў, якія закранаюць маёмасныя інтарэсы беларускіх грамадзян. Як паведамляе прэсавая служба кіраўніка дзяржавы, Указ утрымлівае абавязковыя патрабаваньні да правілаў правядзеньня рэклямнай гульні й крыніцаў фармаваньня прызавога фонду, а таксама ўстаноўлівае абавязковую дзяржаўную рэгістрацыю ў Міністэрстве гандлю правілаў правядзеньня рэклямнай гульні, складу камісіі па яе правядзеньні, памеру й складу прызавога фонду. Вынікі правядзеньня рэклямных гульняў мусяць быць даведзены да Мінгандлю. Штраф, накладаны на арганізатараў за парушэньне палажэньняў Указу альбо правілаў правядзеньня гульні, складае ад 50 да 500 базавых велічыняў.

***www.racyja.pl***

# БТ ПАШЫРАЕ СФЭРУ ЎПЛЫВУ

***З 1-га лютага на 30 адсоткаў скарачаецца тэрыторыя вяшчаньня расейскага тэлеканалу РТР на Беларусь. Замест яго дзясяткі тысяч людзей у рэгіёнах цяпер будуць глядзець праграмы абласных тэлестудыяў, што ўваходзяць у структуру Белдзяржтэлерадыёкампаніі. Паводле кіраўніка БДТРК Ягора Рыбакова, гэта робіцца ў мэтах разьвіцьця нацыянальнага тэлебачаньня. Аднак многія назіральнікі схільны зьвязваць гэты крок з імкненьнем уладаў пашырыць сфэру свайго ўплыву на беларускія рэгіёны, перакрыўшы яшчэ адну з крыніцаў паступленьня на Беларусь непадкантрольнай ім інфармацыі.***



Як патлумачылі нам у аддзеле сувязяў з грамадзкасьцю Белтэлерадыёкампаніі, з суботы сыгналь РТР і сыгналі абласных студыяў «памяняюцца месцамі»: тыя маламагутныя перадатчыкі, што трансьлявалі праграмы з вобласьцяў, аддадуцца пад расейскі тэлеканал, а моцныя рэтраньслятары РТР з 1-га лютага будуць перадаваць сыгнал абласных студыяў. Такім чынам, тэрыторыя вяшчаньня Берасьцейскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Гомельскай і Магілеўскай тэлестудыяў, што ўваходзяць у структуру Белтэлерадыёкампаніі, істотна павялічыцца (гл. схемы).

Гэтаксама ўзрастуць і аб'ёмы іхнага вяшчаньня: кожная з гэтых студыяў павінна будзе запоўніць штодзённа 13 з паловай гадзін эфірнага часу, пяць зь якіх мусяць быць адведзены пад праграмы ўласнае вытворчасьці.

Ініцыятыва гэткіх пераўтварэньняў належыць Белдзяржтэлерадыёкампаніі. (Прынамсі, і ў БДТРК, і ў Міністэрстве інфармацыі падаюць сытуацыю менавіта так. БТ акцэнтуе ўвагу на тым, што канал РТР нічога не плаціў Беларусі за вяшчаньне на ейную тэрыторыю.) Як заявіў на нядаўняй прэс-канфэрэнцыі кіраўнік БДТРК Я. Рыбакоў, гэты крок скіраваны не на блякаваньне інфармацыі з Расеі, а на разьвіцьцё нацыянальнага TV. «Мы — сувэрэнная дзяржава, і мы будзем разьвіваць сваё ўласнае тэлебачаньне» — сьцьвердзіў ён на сустрэчы з журналістамі 28-га студзеня.

Гэткі ўхвальны клопат пра нацыянальнае, аднак, выклікае недавер ня толькі ў апазыцыйных палітыкаў і «нячэсных» журналістаў, але й у самых гледачоў, якія аддавалі перавагу расейскім тэлеканалам найперш таму, што іхны ўзровень значна вышэйшы за ровень БТ. А ў сьвятле нядаўніх выказваньняў А. Лукашэнкі пра вялікае бачаньне ролі мэдыяў у разьвіцьці беларускага грамадзтва значна больш праўдападобным тлумачэньнем адбытага выглядае іншае: а менавіта — імкненьне пашырыць уплыў дзяржаўных тэле-й радыёканалаў, якія ў сваёй працы жорстка кіраваліся б «дзяржаўнай канцэпцыяй разьвіцьця грамадзтва». Мы зьвярнуліся па камэнтар да Эдуарда Мельнікава — былога намесьніка старшыні Дзяржтэлерадыё РБ, а цяпер віцэ-прэзыдэнта Беларускай асацыяцыі журналістаў.

**Э. М.:** — Па-першае, зьдзіўленьне выклікае такі факт: толькі што кіраўнік Расеі быў у Менску, і былі, як пісалі ў газэтах, «пагадненьні», «сяброўства» й «умацаваньне эканамічных сувязяў». І пасьля гэтага перакрываецца дзяржаўны расейскі канал… Па-другое, так склалася ў Беларусі, што больш-менш дакладную інфармацыю пра тое, што робіцца на самой справе, мы часьцей за ўсё бачылі й слухалі якраз з-за мяжы, у тым ліку й з расейскіх каналаў. Таму перакрыцьцё гэтых інфармацыйных крыніцаў для беларускага насельніцтва — гэта дрэнна. І па-трэцяе, калі нехта хоча ва ўласнай дзяржаве навесьці «парадак у інфармацыйнай прасторы», дык гэта ж ня робіцца чыста чыноўным спосабам, без абмеркаваньня ў грамадзтве, без шырокае дыскусіі, ШТО патрэбна насельніцтву, якія праграмы, што замест іх ставіць — усяго ж гэтага не было! Таму гэта выклікае ня толькі зьдзіўленьне, але ўжо й абурэньне…

Як паведамілі нам у аддзеле па сувязях з грамадзкасьцю БТ, пра далейшае пашырэньне сфэры ўплыву абласных тэлестудыяў гаворкі пакуль не вядзецца. Затое вядзецца гаворка пра адкрыцьцё яшчэ аднаго рэспубліканскага дзяржаўнага тэлеканалу. Паводле Я. Рыбакова, у аснове ідэі ягонага стварэньня ляжыць імкненьне выкарыстоўваць напоўніцу творчы патэнцыял работнікаў тэлерадыёкампаніі. Як вынікае зь нядаўняга інтэрвію газэце «Звязда» міністра інфармацыі Беларусі М. Падгайнага, новы канал можа пачаць працаваць на частаце расейскага каналу «Культура» прыкладна праз два месяцы.

Перакрыцьцё расейскіх СМІ беларускімі дзяржаўнымі стала ўжо звычайнай практыкай. Гаворка ідзе ня толькі пра перакрыцьцё часткі праграм ОРТ навінамі ОНТ — з 2-га студзеня прыпынілася трансьляцыя на тэрыторыю Беларусі радыёстанцыяў «Маяк», «Голос России» й «Юность». Ужо з 2-га студзеня на хвалі «Маяка» пачала весьці вяшчаньне радыёстанцыя «Сталіца», а частоты «Юности» перададзены дзяржаўнаму абласному вяшчаньню. Гісторыя з РТР і «Культурай» таксама выглядае як лягічны працяг сьнежаньскае сустрэчы А. Лукашэнкі з прадстаўнікамі тэлеканалаў «СТВ» і «ОНТ». Тады кіраўнік дзяржавы абурыўся, што расейскія электронныя СМІ, якія дэманструюць «непрыхаванае хамства, разбэшчанасьць, імкненьне прынізіць Беларусь», па-ранейшаму дамінуюць у беларускай інфармацыйнай прасторы. «Закрыць сваю інфармацыйную прастору мы ня можам, але работу расейскіх тэле- й радыёканалаў на сваёй тэрыторыі павінны ставіць у цывілізаваныя рамкі» — заявіў тады лідэр нашае краіны.

***Вольга Бабак***

# КАНДЫДАТАЎ АД ПАРТЫЯЎ НЕ РЭГІСТРУЮЦЬ

**30 студзеня, у адпаведнасьці з каляндарным плянам, зацьверджаным Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў, завяршылася рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. Як паведаміў БелаПАН сакратар ЦВК Мікалай Лазавік, пакуль Цэнтральная камісія не валодае інфармацыяй аб тым, як прайшоў гэты этап выбарчай кампаніі. Поўныя дадзеныя аб выніках рэгістрацыі паступяць у ЦВК толькі 5 лютага. Аднак, ужо сёньня зразумела, што большасьць прадстаўнікоў палітычных партыяў ня будуць зарэгістраваныя.**

Нагадаем, што на 24 тысячы 12 дэпутацкіх мандатаў у мясцовыя саветы прэтэндавалі 26 тысяч 567 кандыдатаў. Між тым, вынікі рэгістрацыі ў сталічных выбарчых акругах ужо выклікалі крытыку з боку шэрага палітычных партыяў. Так, з 55 кандыдатаў ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП) зарэгістраваныя 22. Адмоўлена ў рэгістрацыі, у тым ліку, намесьнікам старшыні партыі Алегу Маркевічу і Уладзімеру Карунасу. Апошні зьяўляецца кіраўніком выбарчага штабу лібэральных дэмакратаў.

У Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) з 11 прэтэндэнтаў не зарэгістраваныя два кандыдаты. Гэта таксама намесьнікі старшыні партыі Ніна Стужынская і Віталь Малашка.

Незарэгістраваны і намесьнік старшыні партыі БНФ Юры Хадыка. Ён не згадаў у дэкляраცыі аб даходах суму ў 24 тысячы рублёў.

Сярод незарэгістраваных кандыдатаў – дырэктар Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа Уладзімер Колас, кіраўнік грамадзкага аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву" Алег Волчак, кіраўнік рэспубліканскага грамадзкага аб'яднаньня "Моладзевая дэмакратычная ініцыятыва" Юры Васкрасенскі

***Паводле Хартыі97***

# «КУТЫ» БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ?

## БЕСПРАЦОЎЕ

***Афіцыйная статыстыка паказвае, што самы стабільны «кут» – беспрацоўе згубіў устойлівасць. З 1998 па 2001 гг. Зарэгістраваае беспрацоўе ў Беларусі знаходзілася 2,1—2,3 % (пік прыходзіўся на 1996 год — 4 %). Да канца 2002 году афіцыйны узровень беспрацоў'я склаў 3 % (130,3 тыс. чалавек).***

Безумоўна, грамадзяне павінны «ганарыцца» сваёй дзяржавай, бо нават у самых разьвітых заходніх краінах безпрацоўе на пачатак 2002 г. Складала 5,8 % у ЗША і 8,5 % у Еўропе. Але нават зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі было б меней, каб памер пасоб'я быў ня быў такім мізэрным – на кастрычнік 2002 яго велічыня слала 19 тыс. BYR (9 % ад сярэдняй заробтнай платы па краіне), і хто пагадзіцца працаваць 2 разы на месяц за такія грошы на прыборцы вуліцаў? На аднога зарэгістраванага беспрацоўнага ў Беларусі прыходзіцца 3-4 незарэгістраваных. Але ў медаля ёсць і іншы бок - прыхаванае беспрацоўе. Так, за увесь 2002 год 443 тыс. чал. Працавалі няпоўны працоўны дзень і мелі адпачынак па ініцыятыве наймальнікаў (40 % неаплочаныя).

Дзяржава, здаецца, асэнсавала праблему перазанятасці — Міністэрства працы ўпершыню распрацавала Дзяржаўную праграму занятасьці, паводле якой у 2003 г. У службу занятасці павінна звярнуцца звыш 230 тыс. чал. (5 % аз колькасці працаздольнага насельніцтва). Пры ўмове захавання статусу ўжо існуючых беспрацоўных нават афіцыйны ўзровень беспрацоўя наблізіўся б да 8 %. Аднак у праграме асьцярона кажацца аб 3,5 % узроўне беспрацоўяў 2003 г., праўда пры ўмове стварэння 46 тыс. працоўных месцаў і перападрыхтоўцы 28 тыс.- чал. Дзяржава па-ранейшаму пакідае за сабой выбар метада падліка ўзроўня беспрацоўя, не адпавядаючага рэкамендацыям Міжнароднай арганізацыі працы, а таксама правілаў рэгістрацыі беспрацоўных, робячай рэгістрацыю амаль бессэнсоўнайц для непрацуючага. Але нават гэты ўзровень ўрад палічыў высокім, і вярнуў Праграму на дапрацоўку. Як заўсёды, адбываецца улюбёны савецкі працэс "падгонкі" лічбаў, замест пошуку рэальных шляхоў выйсця з гэтага стану. Разам з тым, рэальны ўзровень перазанятасьці складае ў прамысловай галіне Беларусі 18 %. Ня гледзячы на ўсе адмоўныя фактары, прыемна радуе, што дзяржава перастала хавацца ад праблематыкі беспрацоўя і спрабуе хаця б у нейкай ступені знайсці шляхі скарачэння ўзроўня беспрацоўя.

## ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ

Асаблівасць запланаванай на 2003 г. грашовай палітыкі, якая будзе ўплываць на знешні гандаль – прыкладнае адпавяданне інфляцыі і дэвальвацыі беларускага рубля (18-24 % і 17-22 %). Гэта азначае, што ў 2003 годзе нацыянальныя экспарцёры будуць уратаваныя ад умацавання рубля і, адпаведна, ад павышэння кошту тавараў у валюце на знешнім рынку. Таму цалкам мажлівы некаторы рост рэнтабельнасці экспартных пагадненняў. Аднак, высокі ўзровень канкурэнцыі на сусветным рынку, да якой дадаецца 80 % занядбанасць машынна-станочнага парку Беларусі хутчэй за ўсё скасуюць і гэты «станоўчы» фактар. Імпарт, дарэчы з 1994 г. Традыцыйна перавышае экспарт., але, калі ў 2001 годзе адмоўнае сальда ў знешнім гандлі было 620 млн. USD, то ў 2002 г. яно наблізілася да 800 млн. USD. З улікам станоўчага сальда па паслугах (+500 млн. USD), колькасць «чыстага» экспарта ў УВП на 2002 г. склала прыкладна -2,4 %, а планавалася +0,7 %.

Цікава, чаго нам чакаць ад 2003 г.? Нават афіцыйныя крыніцы прагназуюць, што рост імпарта будзе перавышаць рост экспарта — 109 – 110 % і 108,5 – 109,5 % адпаведна.

Такім чынам, нават самыя «светлыя» прагнозы і абяцанні афіцыйных структураў не адпавядаюць жорсткай рэчаіснасці, тым больш улічваючы, што сам урад перыядычна робіць захады, якія адкідваюць эканоміку краіны усёдалей ад цывілізаванага свету. Распрацоўка праграмаў і шляхоў паляпшэння агульнай эканамічнай сітуацыі — гэта добра, але на досведзе апошніх 5 – 7 гадоў мы звамі ўжо ведаем, чаго нам чакаць...



■

С. Стахоўскі

# НА МЯЖЫ

***Нядаўна мы атрымалі ліст 140 жыхароў мястэчак Мацюты, Старынка, Камаровічы Гарэцкага раёну з пытаньнем: як жыць, калі пры сяэдняй пэнсіі 70 тысячаў рублёў і заробку 100 тысячаў рублёў трэба больш за 100 тысячаў заплаціць за ўтрыманьне кватэр? І вось зноў навіна. 15 студзеня Міністэрства эканомікі ўзгадніла чарговае падвышэньне тарыфаў на ацяпленьне і падагрэў вады яшчэ на 15 адсоткаў. Рашэньні кожнага аблвыканкаму па асобку ўступяць у сілу, калі іх зарэгіструе Мінюст. Як чакаецца, адбудзецца гэта ў пачатку лютага. У хуткай будучыні мы будзем за аднапакаёвую кватэру плаціць каля 44 тысячаў у месяц, двухпакаёвую – прыкладна 66 тысячаў і за трохпакаёвую – дзесьці 91 тысячу рублёў. Прыблізна такія лічбы вельмі хутка мы ўбачым у жыроўках. І гэта, як кажуць, не мяжа...***

**Аэліта Сюльжына,**
**"Советская Белоруссия"**

Год назад руководители Минэкономики и Минжилкомхоза нам объявили, что платежи за коммунальные услуги не покрывают и 20 процентов реальных затрат на их производство. По закону о бюджете коммунальная нагрузка на наш карман должна была возрасти вдвое. Как сказали корреспонденту «СБ» в Министерстве экономики и Минжилкомхозе, закон о бюджете в точности исполнен. Только вот реальные цифры как-то странно «пляшут». Подсчитана инфляция за 2002 год — 34,8 процента, то есть цены в среднем увеличились немногим более чем на треть. Но совсем иная ситуация с коммунальными тарифами. Отопление за год подорожало в 3,5 раза, аналогично — газ, в 2,5 раза — электроэнергия, в 8 раз — обслуживание лифтов, в 5,7 раза— квартплата и так далее. Причем ни одна услуга, даже копеечная за радиоточку, не уложилась в среднестатистическую инфляцию.

Но и после ожидаемого в феврале подорожания отопления и горячей воды обслуживание квартир за счет кошельков жильцов опять-таки будет финансироваться всего на 50 — 53 процента стоимости. Так трактует ситуацию Минэкономики с подачи коммунального монополиста. Так куда же уходят деньги? Написавшие в редакцию жители горецких поселков, и не только они, желают знать, каким образом «набегают» в ЖЭСах баснословные суммы, тогда как в некоторых домах температура воздуха не поднимается выше 14 — 17 градусов и почему теплосчетчик, который, как им сказали, стоит около 800 долларов, нельзя купить и установить в рассрочку? Ведь полное отсутствие поквартирного учета тепла позволяет закладывать в его стоимость все потери. Как иначе, например, объяснить, что расчетная норма потребления воды на человека — 300 литров в сутки? Таким количеством жидкости можно ежедневно мыть слона. В связи с этим хочется задать вопрос: кто считал себестоимость услуг, не ограниченную ни строгим учетом, ни жесткой конкуренцией, и не будет ли она расти такими же темпами, как и тарифы?

Единственным средством избежать подобного развития событий, думается, является привнесение в жилищно-коммунальное хозяйство конкурентной среды. Кстати, уже в этом году Минжилкомхоз планирует акционировать пятую часть ЖЭСов страны. Неплохо было бы ввести практику тендеров на оказание услуг и льготы для малых фирм, которые возьмутся за обслуживание ветшающих домов. Если же коммунальная монополия останется незыблемой, а акционирование окажется простой сменой вывески, то можно только гадать, как при средней пенсии 100 тысяч рублей и зарплате 230 — 250 тысяч рублей мы сможем за однокомнатную квартиру платить около 44 тысяч рублей в месяц, двухкомнатную — примерно 66 тысяч и за «трешку» — где-то 91 тысячу рублей. Приблизительно такие цифры очень скоро мы обнаружим в жировках. И это, как говорится, не предел…

■





*Васіль Храмцоў*
(вершы з Балахоўскага цыклу)

## ГЭЙ–О–ГЭЙ

*(Песьня дывізіі сьмерці)*

Хто бачыў усё, не баіцца памерці,
Ніколі ў сечы яго не стрымаць.
Мы з першай, адважнай дывізіі сьмерці,
За волю сваю ўсё гатовы аддаць.

Нам сілы дае вольнасьці вецер,
У сэрцах палае адвагі агонь.
Лепшы таварыш для нас у сьвеце,
Вострая шабля і верны конь.

Няхай палахліўцы баяцца памерці,
Забыўшыся ў сэрцы пра родную маці.
Нас не спалохаеш наступам сьмерці,
Нам не прывычна ў спадніцах хавацца.

Дзьве тысячы шабель – гэта нямнога,
Дзьве тысячы шабель – гэта нямала.
Адзінага толькі мы просім у Бога,
Каб шчасьце на нашай зямлі панавала.

## СТАРЫ МАЗЫР

І вось мы зноў сустрэліся з табой,
Стары Мазыр, мой любы, родны горад,
Твае ўзвышшы лашчаць погляд мой,
А воды Прыпяці з душы змываюць гора.

Ты прытуляў, ты гадаваў мяне,
Радной зямлі ўліваў у жылы сілу,
Пра прашчураў распавядаў у сне,
Аб вернасьці на ваярскіх магілах,
Стары Мазыр…

А потым ты вучыў мяне кахаць,
Любіць Радзіму, праўду волю, маці.
Ад мэты ні на крок не адступаць,
І голас даў, каб пра ўсё сьпяваці.

Ты выхаваў мяне, пусьціў у сьвет,
І загадаў служыць свайму народу,
У сэрцы несьці продкаў запавет,
Праз цяжкасьці, стыхіі і нягоды.
Стары Мазыр…

Я жыў тваёй навукай ўсе гады ,
А калі ўзнікла за цябе трывога,
Тваю бяду адчуў я, і тады…
Прыйшоў адразу сын на дапамогу.
Стары Мазыр…

## СПАДАРЫ АФІЦЭРЫ

Спадары афіцэры, выбранцы свабоды,
У зорнай цішы не крыўдуйце на лёс,
У жыцьці не знайшлі мы пашаны і згоды,
Сустрэнем іх, пэўна, у сутоньні нябёс.

Спадары афіцэры, выбранцы свабоды,
Мы частка гісторыі, мы ўспамін,
Як крыж Ефрасіньні, як прашчураў стоды,
Як волаты з даўніх славянскіх былін.

Спадары афіцэры, выбранцы свабоды,
У бязьмежжа сусьвету гукаю да вас:
Мы з вамі з крывіцкага, слаўнага роду,
І веліч Радзімы нам несьці прз час.

## ГЕНЕРАЛ ЮДЗЕНІЧ

Генерал Юдзеніч, ваша карта біта,
І на стол вы пакладзіце свой "наган",
Як на божай споведзі, вам кажу адкрыта,
Што даволі непрыемны вас чакае стан.

Вы не вінаватыя, ў тым што адбылося,
Нам даўно наканаваны розныя шляхі,
І таму вас, генерал, затрымаць прыйшлося,
Каб сыйсьці маглі свабодна нашыя палкі.

Нас гукаюць да сябе родныя абшары,
На чужой зямельцы нам не ўсядзець,
Для сваёй Радзімы мы аб волі марым,
Нашыя імкненьні вам не зразумець.

Генерал Юдзеніч, ваша карта біта,
Нам даўно наканаваны розныя шляхі,
Як на божай споведзі, вам кажу адкрыта,
Што вяду на Беларусь я свае палкі.

## МАНАЛОГ

Мой любы край! Зямля дзядоў маіх!
Мая радзіма, мая маці, Беларусь.
Сагрэты цеплынёй палёў тваіх
Табою шчыра, па сыноўску ганаруся.

Жыве ў сэрцы сінь тваіх азёр,
Шматлікіх рэк, і гаваркіх крыніц:
За немату маіх братоў, сясцёр,
Перад табой гатовы ўпасьці ніц.

Павер, радзімая, ёсьць лепшыя сыны.
І на сабе пазналі ўжо даўно,
Як лязгаюць няволі кайданы,
І як рыпіць нявольніка ярмо.

Мой любы край! Зямля дзядоў маіх!
Мая радзіма, мая маці, Беларусь.
За вечны мір ў палёх, садох тваіх,
У Бога, на каленях я малю.

## ВЕСНАВЫЯ СЛЁЗЫ

Абуджаюць памяць веснавыя сьлёзы.
Тае лёд успамінаў у маёй душы.
Помню, як у калядныя, лютыя марозы
На імклівых конях несьліcь да імшы

Асьвятляў дарогу месяц серабрысты.
Зіхацеў над намі зорны карагод.
І гучала песьня ў паветры чыстым,
У такт, пад капытамі, падпяваў нам лёд.

Як з табой купаліcь у снегавых пярынах,
Што паслаў праднамі пазаснулы сад,
І ліліcь напевы шчодрых вечарынаў,
Па дварах сялянскіх пасівелых хат

На вачах з'явіліcь ад ўспамінаў сьлёзы,
Ціха сэрца ные, цяжка на душы…
І ўжо другія, пад старой бярозай,
Песьні салаўіныя слухаюць ў цішы.

## КРУМКАЧ

Зьвініць нахабна куляў сьпеў,
Цяжар былога за сьпіной.
Што я ў жыцьці зрабіць пасьпеў,
Што будзе надалей са мной?

А сьмерць вакол нібыта цень,
Зьнішчае нівы і лугі.
Відаць прыйшоў мой судны дзень,
Жыцьця сыйшліся берагі.

Ў палях блукае сумны плач,
Ушчэнт згарэлі мурагі.
Над імі лётае крумкач
У хмарах поўнае тугі.

Ты не кружляй над галавой,
Нямала тых, што паляглі.
Апошні стрэл яшчэ за мной
На гэтай змучанай зямлі.

# ЗОМБІ

Мусіць, прачынаюся, хачу адкрыць вочы, але цяжка. Адкрыў адно, другое лянота. Убачыў з паўвакна завешанага пажаўцелай газэтай, памечанай мушынымі кропкамі, нібы мікрапячаткамі на якой кампутарнай плаце. Здаецца ўжо дзень, суседка ўжо лаецца на свайго мужа. Добра мне, ні якага прэсінгу, гол як сакол. А калісьці жанчыны займалі ў маім жыцці даволі значнае месца. У роце быў такі прысмак, нібы там атрад піянераў прайшоў.

Хацеў намацаць сіфон пад ложкам, але скуль жа яму там узяцца, калі даўно ўжо німа. Паціху падымаюся, намацаў басымі нагамі гумавыя галёшы. Галава яшчэ слаба рэагуе на «знешні фактар». Трэба стравіць ціск, бо нешта з нізу жывата стукнула ў галаву. У роце страшна сушыла. Напіўся з іржавага крана, супакой ваючы сябе думкай пра тое жалеза карысны элемент для чалавечага арганізма.

Нехта пагрукаў у дзверы. Хацелася прараўсці што-небудзь, але язык як прысох. Іду да дзвярэй, натыкаючыся на пустыя пляшкі, ды коркі. Сябра прыйшоў… Хто з нас за каго старэйшы сказаць цяжка… Праца у нас цяжкая, таму і выглядаем так… А працуе у «гор-топе», гэта значыць топаем так па горадзе ды збіраем бутэлькі, кардон ды ўсё што цвікамі не прыбіта.

— Віншую з днём народзінаў!!! Кажуць добра адзначыў!?

— Дзякуй, мо і ня кепска, — адказаў, а сам вырашыў пакуль не узгадаю, што наўраці, ці сябры не раскажуць, хваліцца ня буду.



Гарэлі трубы… «Дзякуі Богу за тое што паслаў разумнага сябра», — мільганула ў галаве, калі ўбачыў, як той па-запраўску з давольным відам, дастаў з кішэні бутэльку «Сасновага бору». Пасля першай у галаве неяк пасьнела. Потым была «дыскусія» пра тое, што спірт разбурае халестырын, які набіраецца на сценках сасудаў… Выпілі за тое, што нашы сасуды яму не па зубам.

*В. Атрахімовіч*

## ЕСЛИ У ВАС В КВАРТИРЕ ХОЛОДНО!!!

Начальнику
ЖЭО №_____ г. Новополоцка
_______________________
от_______________________
проживающего(ей) по адресу :
г. Новополоцк
ул.___________________
д. _____ кв. _____

**Жалоба**

У меня, ______________________________, на данный момент в квартире ____С, что на _____ С ниже минимальной нормативной температуры (18 С).

Я в свою очередь своевременно вношу плату за отопление и , следовательно, имею право требовать соблюдения данной нормы.

В связи с этим прошу принять меры к установлению в моей квартире температуры не ниже нормативной (18 С), а также прошу дать мне, в установленные законом РБ «О обращениях граждан» сроки, письменный ответ о принятых мерах по моему заявлению. В случае непринятия срочных мер с Вашей стороны дальнейшее рассмотрение вопроса будет производиться через вышестоящие органы.

__________ (дата) __________ (подпись)

**Паважаныя навапалачане!**
У выпадку парушэньня Вашых правоў зьвяртайцеся за бясплатнай дапамогай да прадстаўнікоў Грамадскага аб'яднаньня **"Праваабарончы цэнтр "Вясна"** ў Наваполацку.
Кантактны тэлефон: **52-89-56**

За дакладнасьць фактаў і лічбаў нясуць адказнасьць аўтары. Думкі аўтараў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі

Адрэса для допісаў: 211440, Наваполацак -8, п\с №26. E-mail:dzjannica@tut.by

Выдаецца на правах рукапісу. Наклад 299 асобнікаў. Тэксты артыкулаў друкуюцца на мове аўтара.